www.nv-online.info

№ 12 (4264)

9 лютага 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

КАДРАТРУС ТЫДНЯ

Хто ж мог падумаць, што ў адзін дзень пакінуць свае пасады старшыня Белдзяржтэлерадыёкампаніі **Генадзь Давыдзька,** галоўны рэдактар газеты «Советская Белоруссия» **Павел Якубовіч** і генеральны дырэктар тэлеканала СТБ **Юрый Казіятка?**

На іх месца прызначаны адпаведна **Іван Эйсмант, Дзмітрый Жук, Ігар Луцкі.**

Паколькі ў бліжэйшай перспектыве менавіта гэтыя асобы ў многім будуць вызначаць аблічча інфармацыйнай прасторы, то не выключаем, што чытачы "Народнай Волі" звернуць увагу на іх біяграфічныя звесткі.

ХТО ЁСЦЬ ХТО



**Іван Міхайлавіч Эйсмант** нарадзіўся ў 1977 годзе ў Гродне. Мае дыплом юрыста. На тэлебачанне прыйшоў вядучым праграмы «Дзелавое жыццё». У далейшым вёў праграмы «Сфера інтарэсаў», «Зона Х», «Навіны», «Панарама», «Галоўны эфір».

Жонка Івана Эйсманта Наталля з 2014 года працуе кіраўніком прэс-службы прэзідэнта Беларусі **Аляксандра Лукашэнкі**.

Сястра Івана Ганна – вядучая спартыўных навін на БТ.

***



**Дзмітрый Аляксандравіч Жук** нарадзіўся 7 ліпеня 1970 года ў вёсцы Ляткоўшчына Слуцкага раёна Мінскай вобласці. У 1992 годзе скончыў філалагічны факультэт БДУ. У 2013 годзе – Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. У 1992–1993 гадах – настаўнік беларускай мовы і літаратуры школы-гімназіі №199 г. Мінска. У журналістыцы з 1993 года. Працаваў на розных пасадах у выдавецка-інфармацыйным цэнтры Нацбанка, намеснікам генеральнага дырэктара інфармагенцтва «Інтэрфакс-Захад». З лістапада 1999 года па май 2003 года ўзначальваў прэс-службу прэзідэнта. З мая 2003 года працаваў гендырэктарам РУП «Беларускае тэлеграфнае агенцтва».

Новы рэдактар «Советской Белоруссии» – сын вядомага пісьменніка Алеся Жука.

***



**Ігар Уладзіміравіч Луцкі** нарадзіўся ў 1972 годзе ў горадзе Столін Брэсцкай вобласці. У 1994 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт; у 2000 годзе – Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Працаваў у Міністэрстве па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі Рэспублікі Беларусь, у канцылярыі прэзідэнта. У 2004–2006 гадах – намеснік генеральнага дырэктара РУП «БЕЛТА", у 2006–2008 гадах – дырэктар «Новага радыё», у 2008–2014 гадах – першы намеснік гендырэктара "БЕЛТА". Да нядаўняга часу працаваў на пасадзе першага намесніка міністра інфармацыі.

МЫСЛИ ВСЛУХ

Виталь РИМАШЕВСКИЙ,
сопредседатель оргкомитета по созданию партии «Белорусская Христианская Демократия»

## Когда в каждом городе, в каждом районе, на каждой улице, в каждом доме будет лидер…

Мое мнение: в Беларуси сложно честным трудом обеспечить достойную жизнь своей семье, своим детям. Очень многие пенсионеры считают копейки, чтобы свести концы с концами на свою нищенскую пенсию. С каждым годом проходит все больше судов над продажными чиновниками, но коррупции от этого меньше не становится…

«От нас ничего не зависит», – все чаше можно слышать от людей. Но что может сделать, изменить в своем городе, своем районе один человек, показывают кандидаты в депутаты от белорусских христианских демократов.

Это самые разные люди: рабочие, пенсионеры, предприниматели, студенты. Они выдвигаются кандидатами в депутаты по всей стране – от маленькой деревни на Брестчине до областных Советов в Гродно, Могилеве, Витебске, Минске. Они борются за решение различных проблем – от строительства школы в Гродно да льготного проезда для пенсионеров в Минске. Но их всех объединяет одно: они не ждут, пока кто-либо придет и решит их проблемы, подают личный пример активной гражданской позиции.

Наши кандидаты не только борются за честные и справедливые выборы, но и ведут кампании по решению важных местных проблем. **И независимо от результатов этих выборов наши кандидаты продолжат работу в округах**. После окончания избирательной кампании мы, как и раньше, будем оказывать помощь людям. Даже в нашей стране защитить интересы людей можно, можно изменить или отменить несправедливые законы. Для этого есть только один путь – объединить людей и вместе потребовать от власти исполнение воли народа. Самый яркий пример совместного успешного действия – это отмена декрета о так называемых тунеядцах. Тысячи людей по всей стране объединились и потребовали отменить несправедливый декрет. И он был отменен!

За плечами представителей Белорусской Христианской Демократии сотни конкретных дел на местах. Сделать дополнительно остановку транспорта, пустить новый маршрут автобуса, добиться строительства школы, поликлиники или детского сада, остановить уплотнение застройки, защитить конкретного человека от произвола местных чиновников – все это маленькие победы в масштабах страны, но дела большой важности для жизни людей и их семей.

Депутатов местных Советов в Беларуси более 18.000. Кандидатов от всех демократических сил не более 500. Власть в нашей стране изменится тогда, когда белорусы научатся объединяться и защищать друг друга. Когда в каждом городе, в каждом районе, на каждой улице, в каждом доме будет лидер, способный стать альтернативой «назначенным» депутатам и недобросовестным чиновникам. Мы надеемся, что наши кандидаты станут тем примером, который поможет всем неравнодушным людям сплотиться и взять на себя ответственность за жизнь страны и общества.

ЧУЛІ?

## Шэйман возьмецца за фармацэўтыку

Прэзідэнт **А.Лукашэнка** даручыў **Віктару Шэйману** павысіць уплыў Кіраўніцтва спраў на эканоміку краіны. У прыватнасці, яно павінна ўзяцца за фармацэўтыку і электронныя латарэі.

Як я помню, пачынаючы з 1994 года – з моманту ўтварэння Кіраўніцтва спраў прэзідэнта – яно толькі і рабіла, што павышала свой уплыў. У прыватнасці, праз прадпрыемствы, якія ўваходзілі ў яго структуру:

– здавала ў арэнду офісныя памяшканні;
– гандлявала гарэлкай;
– гандлявала нафтай і нафтапрадуктамі;
– вырабляла сувенірную прадукцыю і займалася народнымі промысламі;
– гандлявала рыбай;
– займалася будаўніцтвам;
– друкавала газеты, кнігі, часопісы і рабіла шмат чаго іншага.

За гэты ж час аднаго кіраўніка спраў адправілі ў адстаўку з рэпутацыяй "карупцыянера", а другую асудзілі і нават пасадзілі (праўда, хутка яна адкупілася). Усе астатнія неяк здолелі адысці на пенсію больш-менш мірным шляхам.

Але ў той момант, калі ведамства павышала свой уплыў на эканоміку:

– павышалася арэндная стаўка на арэнду офісных і гандлёвых памяшканняў;
– адбываліся скандалы з гарэлкай, якая ішла на расійскі рынак;
– адбываліся спрэчкі паміж структурамі, якія гандлявалі нафтапрадуктамі, што, як кажуць, і давяло кіраўніцу спраў прэзідэнта да "цугундара";
– раслі кошты на нафту;
– раслі кошты на будаўніцтва кватэр;
– незалежныя перыядычныя выданні выганяліся з друкарняў і адбывалася шмат чаго іншага, але ж не менш скандальнага.

Так, пры Віктары Шэймане такіх скандалаў амаль не было – а можа, я не памятаю ці не ведаю. Але ж зараз Кіраўніцтва спраў будзе займацца фармацыяй. Ці не здаецца дзяржаве, што лекі ў нас занадта танныя? Ці, можа, іх зашмат?

Шаноўныя, кінье падымаць уплыў – ад вашага ўплыву кошты толькі вырастаюць.

А латарэі – хрэн з імі, бярыце!

**Аляксандр ФЯДУТА.**

З НАГОДЫ



Зянон ПАЗЬНЯК:

## «Шэсце павінна адбывацца ўзнёсла, з кветкамі, танцамі, песнямі, музыкай»

Да 25 сакавіка, калі будзе адзначацца 100-годдзе абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, застаюцца лічаныя тыдні. Але падобна на тое, што ні афіцыйныя ўлады, ні дэмакратычная грамадскасць пакуль не маюць канкрэтнага плана святкавання. З гэтай нагоды, здаецца, пэўную цікавасць уяўляе наступнае выказванне Зянона Пазьняка:

*"Трэба разумна падумаць пра шэсце. 25 Сакавіка мусіць быць не шэсце правакатараў з дурнаватымі лозунгамі тыпу "Мы не быдло", але дэманстрацыя ўрачыстага нацыянальнага свята. Шэсце павінна адбывацца ўзнёсла, з кветкамі, танцамі, песнямі, музыкай.*

*...Варта ўжываць больш лакальныя формы і адзначэнні: мастацкія выставы, канферэнцыі, выданне кніг, спектаклі, спевы гімнаў. Вольнаму чалавеку не трэба ўказанняў зверху, што рабіць, ён сам будзе сабе свята ствараць. Людзі вольныя прыдумаюць і зробяць усё самі. Трэба шукаць кожную магчымасць, каб адсвяткаваць прыстойна. Нават на сямейным узроўні трэба адзначаць нацыянальныя юбілеі і святы. І гэта важна і характарызуе нас як народ".*

У СОСЕДЕЙ

## Минимальные зарплаты в Польше изменились

С 1 января изменился порядок начисления заработной платы у наших ближайших западных соседей. Теперь минимальная заработная плата работника, работающего на основном месте занятости, будет составлять «грязными» (то есть вместе с налогами) не менее 2100 злотых, а час работы почасовика-совместителя – не менее 13,7 злотого. Если учесть, что курс злотого к белорусскому рублю, по данным Национального банка Беларуси на 7 февраля, составлял 5,93 рубля за 10 злотых, то это 1245,3 рубля и 8,12 рубля соответственно. Это больше, чем обещанная, но так и не достигнутая белорусскими властями средняя заработная плата в 500 долларов США.

При этом Польша испытывает дефицит работников, согласных заниматься неквалифицированным трудом. Поэтому облегчена процедура принятия на работу граждан шести бывших советских республик – Украины, Беларуси, России, Грузии, Армении и Молдовы. Выбор этих государств, вероятно, аргументируется принадлежностью большинства их граждан к христианской культуре.

В 2017 году учреждения Министерства труда выдали субъектам хозяйствования около 1,8 миллиона разрешений на трудоустройство иностранцев в течение шести месяцев в году. Воспользовались, однако, этими разрешениями лишь 250 тысяч человек, однако и это гигантская цифра: показатель вырос в сравнении с 2016 годом на 100%! При этом большинство трудоустроившихся были гражданами Украины (85%).

Упрощена также процедура ожидания разрешения: теперь иностранцы (граждане упомянутых шести бывших советских республик) смогут легально находиться на территории Польши в то время, пока ответственные государственные службы будут рассматривать их заявления. До сих пор они были вынуждены делать это нелегально.

ЛИЧНОСТЬ

Петр ПОПРАВКО:

## «Если есть минус, то будет и плюс…»

*Корреспондент «Народной Воли» побеседовал с 43-летним кандидатом в депутаты Мингорсовета по Курасовщинскому избирательному округу №16 **Петром Поправко**, который является активистом оргкомитета по созданию партии «Белорусская Христианская Демократия».*



– Родился я в Минске, – *рассказывает наш собеседник.* – После школы служил на авиабазе, где принимал присягу под бело-красно-белым флагом. Там же, по сути, получил образование метеоролога. Затем вернулся домой, решил попробовать себя в предпринимательстве. Тогда, в 1990-е, коммерческие киоски имели успех. Помню, один из друзей уезжал на постоянное место жительства в США, он и предложил мне свой бизнес – вариант "торгово-закупочной деятельности".

**– Лихие были годы…**

– Да, застал их во всей красе! С гиперинфляцией, взяточниками всех мастей, в том числе и в милицейской форме, которые приходили, требовали какие-то "сертификаты", образно говоря, выкручивали руки и забирали деньги. Хотя, когда обворовали мой киоск, я сам нашел тех, кто был к этому причастен. И уже тогда в райотделе милиции какой-то местный начальник с важным видом рассказывал, что, оказывается, это я порождаю преступность на территории Ленинского района, потому что злоумышленники покушаются на мои материальные ценности. Это была просто вершина логики! Я понял, что мне необходимо иметь юридическое образование, чтобы уметь ответить этим "блюстителям законности", и в 1999 году закончил Институт управления.

***(Окончание на 2-й стр.)***

СІТУАЦЫЯ

## Ці разбярэцца палкоўнік Алег Маткін у сітуацыі з Міхаілам Жамчужным?

*Праваабаронцы заяўляюць, што жыццё іх калегі знаходзіцца пад пагрозай.*

Нагадаем, што заснавальнік праваабарончай установы "Платформ інавэйшн" **Міхаіл Жамчужны** зараз адбывае пакаранне ў Горацкай калоніі №9. З пачатку жніўня адміністрацыя гэтай установы пачала выносіць яму спагнанні за адмовы пераходзіць у атрад, сфарміраваны са зняволеных з так званым "нізкім статусам". За гэта Міхаіла пастаянна караюць змяшчэннем у ШІЗА альбо ПКТ.

*"Нам стала вядома, што не так даўно Жамчужны быў пакінуты без аховы і нагляду ў калідоры санчасці, дзе быў збіты іншым асуджаным – у чорных акулярах, вязаных чорных пальчатках і шапцы,* – паведамляюць праваабаронцы. – *Міхаіл атрымаў некалькі ўдараў па галаве. Пры гэтым нападнік выказаў пагрозу, што калі сустрэне Жамчужнага ў калоніі – "распусціць на ніткі". Па дадзеным інцыдэнце палітвязнем пададзена скарга ў пракуратуру Магілёўскай вобласці".*

*"Сітуацыя можа значна пагоршыцца,* – дадае кіраўнік праваабарончай установы "Платформа" **Андрэй Бандарэнка**. – *Міхаіл змог перадаць на волю, што ў дачыненні да яго хочуць распачаць новую крымінальную справу па арт.411 – за злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі калоніі. З яго слоў, у аснову справы хочуць пакласці адмову накіравацца ў атрад №13, дзе збіраюць асуджаных з "нізкім статусам". Пераводзіць Жамчужнага ў бяспечнае месца адміністрацыя адмовілася. Калі ж распачнуць новую крымінальную справу, то Міхаілу могуць дадаць яшчэ 2 гады зняволення".*

*Дарэчы, днямі на пасаду начальніка Дэпартамента выканання пакаранняў быў прызначаны палкоўнік **Алег Маткін**. Можа, ён справядліва разбярэцца ў сітуацыі з Жамчужным і спыніць той ціск, што на яго аказвае адміністрацыя калоніі?*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

